№ 77 (1142)
Пятніца, 27 красавіка 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля




**Надвор'е**

Сёння ўдзень на краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер няўстойлівы, 3—8 м/сек. Тэмпература паветра ў Брэсце — +13...+14, Гродне — +13...+15, Мінску — +14...+16, Гомелі — +15...+17, Віцебску, Магілёве — +16—+18.



НАВІНЫ

## Прадпрымальнікі адклалі забастоўку

**Запланаваная на 26 красавіка аднадзённая забастоўка прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рэчавых рынках Беларусі, перанесціца на 18 мая. Пра гэта паведаміў БелаПАН старшыня страйкама прадпрымальнікаў Валерый Леванеўскі. Акрамя таго, з 1 мая на 1 чэрвеня перанесціцца пачатак бестэрміновай забастоўкі "чаўнакоў".**

Паводле слоў Леванеўскага, многія прадпрымальнікі не былі гатовы баставаць у першапачаткова намечаны дзень. Частка кіраўнікоў прадпрымальніцкіх структур заявіла, што кіраўніцтва "нічога не робіць для падрыхтоўкі забастовак", "некаторыя былыя калегі па прафсаюзным руху сумесна з дзяржаўнымі органамі супрацьдзейнічаюць правядзенню забастовак". У самога страйкама пакуль не хапае рэсурсаў для паўнацэннай арганізацыі такіх маштабных акцый. Адначасова страйкам гатовы "падтрымаць любыя мясцовыя акцыі пратэсту прадпрымальнікаў у красавіку — маі".

Перанос аднадзённай забастоўкі менавіта на 18 мая абумоўлены правядзеннем у гэты дзень уладамі Усебеларускага народнага сходу.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Будзь здароў, калега!



**Рэдакцыя газеты "Народная воля" суседствуе з такім вядомым агенцтвам краіны, як БелТА. Сёння ў нашых калег свята — яны адзначаюць 60-годдзе першага намесніка генеральнага дырэктара Мікалая Захаравіча Кернога, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, аўтара шэрагу кніг, выдатнейшага журналіста.**

Мы, нарадавольцы, далучаемся да іх віншаванняў і зычым табе, Мікалай Захаравіч, доўгіх гадоў жыцця, натхнення і плёну ў творчых справах.

**Нарадавольцы.**

## Рост нараджальнасці на Магілёўшчыне

**З пачатку гэтага года ў Магілёўскай вобласці назіраецца рост нараджальнасці.**

Паводле звестак статыстыкі, у студзені — лютым у вобласці нарадзіліся 1.782 дзіцяці, што на 7,9 працэнта больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года.

У той жа час узровень нараджальнасці на Магілёўшчыне працягвае адставаць ад узроўню смяротнасці: за гэты ж перыяд сёлета памерлі 3.129 чалавек, кожны пяты з якіх знаходзіўся ў працаздольным узросце.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## Адменены рух цягнікоў ва Украіну

**Гомельскае аддзяленне Беларускай чыгункі (БЧ) адмяніла рух міждзяржаўных прыгарадных цягнікоў ад Гомеля да першай украінскай станцыі Гарнастаеўка. Як паведамілі БелаПАН у аддзяленні БЧ, гэта звязана з тым, што ўкраінскі бок, прадаючы білеты на дадзены цягнік, адмаўляўся весці разлік з гомельскімі чыгуначнікамі. У выніку ўтрыманне прыгараднага цягніка аказалася для гамяльчан непасільным.**

Замест адмененых дызель-цягнікоў Гомельскае аддзяленне БЧ арганізавала рух па гэтым маршруце пасажырскіх цягнікоў, паколькі разлікі для дадзенай катэгорыі цягнікоў рэгламентаваныя. З-за гэтых змяненняў білет да Гарнастаеўкі зараз каштуе 2,9 тысячы рублёў замест ранейшых 600 рублёў. Пабочны эфект ад новаўвядзення відавочны: апошнімі днямі прыкметна парадзелі рады ўкраінскіх "чаўнакоў", якія прыязджаюць гандляваць у Гомель.

**Ірына ШАНЦАВА.**

## Анёлу адпілавалі крылы

**Анёл працы скульптара Ігара Голубева, які тры гады ахінаў крыламі вечны спакой загінуўшых за Радзіму, пакінуў сваё месца на могілках воінаў Вялікай Айчыннай вайны ў Оршы. Людзі, якія прыйшлі сюды на Радаўніцу, даведаліся, што скульптуру давялося адправіць у сховішча мясцовага музея. Як высветлілася, невядомыя хуліганы нажоўкай адпілавалі анёлу крылы.**

Аршанскі раён рызыкуе быць унесеным у Кнігу рэкордаў Гінеса як лідэр па колькасці апаганьванняў памяці. Днямі, да прыкладу, схільнасць да вандалізму прадэманстравалі падлеткі, якія выкралі 11 таблічак з брацкай магілы воінаў у вёсцы Якаўлевічы. А напярэдадні дня памінання памерлых 26-гадовы жыхар вёскі Балбасава ўчыніў здзек над магіламі ў вёсцы Чэрвіна. "Здабычу" вандала склалі 37 алюмініевых таблічак з імёнамі і эпітафіямі. Па гэтых фактах узбуджаны крымінальныя справы, вядзецца следства.

**Леанід СІМАНАЎ, БелаПАН.**

ЧУЛІ?

# Аб'ядналася пяцёрка прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта

Пяць вядомых палітыкаў — Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш, Сяргей Калякін, Павел Казлоўскі, Міхаіл Чыгір — заявілі аб дасягнутай паміж імі дамоўленасці па каардынацыі дзеянняў для дасягнення агульнай мэты — перамогі на прэзідэнцкіх выбарах.

У гэтай сувязі яны распаўсюдзілі сумесную заяву, у якой выклалі свае асноўныя прынцыпы. Гэта — вывад краіны з зацяжнога крызісу і пад'ём нацыянальнай эканомікі на аснове распрацаванай агульнай праграмы, якая прадугледжвае эфектыўнае выкарыстанне геапалітычнага становішча Беларусі, стварэнне спрыяльных умоў для вытворчасці, інвестыцый, развіцця ўсіх форм уласнасці.

У дакуменце гаворыцца, што перамога на прэзідэнцкіх выбарах неабходная для "рэальнага павышэння дабрабыту людзей, пераадолення беднасці і галечы, надзейнай сацыяльнай абароны пенсіянераў, інвалідаў, чарнобыльцаў, навучэнцаў, дапамогі сям'і; забеспячэння правоў і свабод грамадзян; належнай барацьбы са злачыннасцю; ліквідацыі чыноўніцкага бязмежжа і карупцыі, пераследу іншадумцаў; рэабілітацыі незаконна асуджаных, устанаўлення вінаватых у знікненні людзей".

Палітыкі заявілі аб гатоўнасці ўмацоўваць мясцовыя Саветы і органы самакіравання, што прывядзе да вяртання ўлады народу. У праграме "блока кандыдатаў" гаворыцца, што яе рэалізацыя прывядзе да развіцця ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з Расіяй "у Саюзе дзвюх суверэнных дзяржаў", да ўстанаўлення дружалюбных адносін з краінамі Еўропы і ўсяго свету, пераадолення міжнароднай ізаляцыі Беларусі.

Аўтары звароту заклікаюць усіх грамадзян Беларусі аб'яднацца дзеля будучыні Радзімы: "Толькі разам мы ў сілах змяніць жыццё да лепшага, забяспечыць для кожнага магчымасць зарабляць і законны парадак для ўсіх".

3 мая палітыкі, якія падпісалі гэты дакумент, маюць намер правесці прэс-канферэнцыю і больш падрабязна расказаць пра свае планы.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

ПИКЕТ

## Верните Юрия Захаренко!

В субботу, т.е. 28 апреля, в Минске состоится пикет, связанный с исчезновением видных политических деятелей оппозиции Ю.Захаренко, В.Гончара, А.Красовского. Место проведения — площадь Бангалор. Время — с 14.00. до 16.00.

Организаторами пикета выступили председатель общественного объединения "Правовая помощь населению" О.Волчек, члены Объединенной гражданской партии С.Стриженок. и И.Гайшун.

На пикете будут присутствовать жены исчезнувших политиков, представители правозащитных организаций.

**Антон КОРЗУН.**

ПАЗІЦЫЯ

## Без лукашэнкаўскага прозвішча ў выбарчых бюлетэнях

Цяпер большасць палітычных дзеячаў заклікаюць усё дарослае насельніцтва Беларусі прыняць актыўны ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах, якія адбудуцца праз некалькі месяцаў. Пры гэтым агітуюць не байкатаваць выбары, а ісці галасаваць пры любых умовах іх правядзення. На гэта, напрыклад, арыентуе адзін з лідэраў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі В.Ржаннікаў у сваім вялікім артыкуле, надрукаваным у "Народнай волі" 10 красавіка.

Я катэгарычна супраць такой пазіцыі. Прэзідэнцкія выбары будуць праводзіць нелігітымныя органы ўлады. Яны зробяць усё, што ім удасца, каб не дапусціць уключэння ў выбарчыя бюлетэні імёны сапраўдных змагароў за свабоду і росквіт Беларусі. Нелігітымны Цэнтрвыбаркам зможа кардынальна сфальсіфікаваць лічбавыя вынікі выбараў прэзідэнта. Таму, калі ўсё ж вядомыя апазіцыйныя дзеячы пажадаюць балаціравацца на пасаду прэзідэнта краіны, то яны, на мой погляд, павінны зрабіць заяву з прыкладна такім зместам: "Мы будзем удзельнічаць у выбарах толькі пры ўмове, што не будзе лукашэнкаўскага прозвішча ў выбарчых бюлетэнях. А.Р.Лукашэнка груба парушыў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і асноўныя нормы міжнароднага права. Ён незаконна прадоўжыў тэрмін сваіх прэзідэнцкіх паўнамоцтваў, расхвальваў Гітлера, здзекаваўся над беларускай мовай, называў "отребьем" найлепшых апазіцыйных грамадзян Беларусі, давёў эканоміку да катастрафічнага стану... Такі чалавек не мае ні маральнага, ні юрыдычнага права балаціравацца на пасаду прэзідэнта краіны. Калі прозвішча А.Р.Лукашэнкі ўсё ж з'явіцца ў выбарчых бюлетэнях, мы аб'явім байкот выбарам. І большасць краін не будзе прызнаваць такія выбары".

Я і многія мае сябры і сяброўкі не пойдзем на выбарчыя ўчасткі галасаваць за каго-небудзь пры ўмове, што лукашэнкаўскае прозвішча будзе ў выбарчых бюлетэнях.

**Сяргей БАРЫСАЎ, геолаг, жыхар Мінска.**

# 115 лет исполнилось самой старой жительнице планеты



*Самый старый человек планеты — француженка Мари Бремон — в среду отпраздновала свое 115-летие, сообщает Associated Press.*

Мари Бремон живет в доме престарелых в городе Cande (департамент Maine-et-Loire), в 240 километрах от Парижа. Свой день рождения мадам встретила бокалом белого вина и клубничным тортом. "Она большой гурман," — сообщила одна из медсестер. — "У нее хороший аппетит. А больше всего она любит шоколад".

Бремон официально считается самым старым человеком после смерти в ноябре 2001 англичанки Евы Моррис, которая умерла за 6 дней до своего 115-летия. Бремон — вторая француженка-рекордсменка, ее предшественница Жанна Кальман умерла в 1997 году в возрасте 122 лет.

Бремон родилась в семье лесоруба. С восьми лет она начала работать, сначала на ферме, а затем на фармацевтической фабрике, была сиделкой и швеей. Первый муж Бремон умер во время первой мировой войны, а второй — в 1967 году.

В возрасте 103 лет Мари Бремон сбила машина и в результате она сломала себе руку.

**Lenta.ru.**

# "Газпром" даруе даўгі "Белтрансгазу"

***Расійскі "Газпром" і беларускае аб'яднанне "Белтрансгаз" падпісалі пагадненне аб рэструктурызацыі беларускай запазычанасці за пастаўкі прыроднага газу.***

Кіраўнік "Белтрансгазу" Пётр Пётух павінен быць задаволены. Згодна з падпісаным у Маскве пагадненнем, Беларусь атрымала магчымасць на працягу трох гадоў разлічвацца за даўгі, якія яна мела перад "Газпромам" на 1 студзеня 2001 года. Запазычанасць нашых газавікоў перад расійскімі калегамі складала ні многа ні мала 77,2 мільёна долараў.

Акрамя таго, зараз "Белтрансгаз" будзе разлічвацца толькі за паступаючы газ. Пені за пратэрміноўку плацяжоў будуцьануляваны. І, як кажуць у "Белтрансгазе", гэта дазволіць разлічвацца з Расіяй у поўным аб'ёме. Як вядома, Беларусь разлічваецца за газ не толькі амерыканскімі доларамі, але і бартэрам. У Расію пастаўляем усё, што можам: трактары, кормаўборачную тэхніку, медыцынскае абсталяванне і нават кансервы з бульбай. Плануецца, што ў гэтым годзе ў рамках аплаты за бягучыя пастаўкі газу "Газпром" атрымае беларускай прадукцыі на суму 10 мільёнаў амерыканскіх долараў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

# Плачуць бярозы ў Курапатах...



Першай, каго я ўбачыла, прыйшоўшы ў Курапаты на традыцыйную талаку перад Радаўніцай, была маленькая жанчына з сівой галавой і надзіва маладымі, прыгожымі вачыма — Мая Тодараўна Кляшторная. Яна ўскопвала палоску ляснога дзірвану вакол Крыжа пакуты, сеяла ў пульхную глебу кветкі...

Часта сустракаю яе тут, у сусветнавядомым месцы, дзе ад куль сталінскіх катаў палеглі дзесяткі тысяч ні ў чым не вінаватых людзей. Не, "віна" за імі — у вачах знішчальнікаў — была, і вялікая: яны жылі чэсна і сумленна, любілі сваіх дзяцей, Бацькаўшчыну. Ні на каго не даносілі, не рабілі подласці — і таму былі небяспечныя рэжыму, які трымаўся на подласці і даносах. Ахвярай гэтага рэжыму ў 30-х гадах стаў разам з большасцю беларускіх пісьменнікаў, навукоўцаў, іншых прадстаўнікоў інтэлігенцыі і малады, акрылены паэт-рамантык Тодар Кляшторны, бацька Маі Тодараўны. Яго расстралялі, а сям'ю "изменника Родины" кінулі ў ГУЛАГ.

Там, за калючым дротам, з трохгадовага ўзросту і "перавыхоўвалі" маленькую дзяўчынку... Але не здолелі выбіць з яе Памяць. Калі яна вярнулася на радзіму з далёкага краю, то вывучыла бацькаву мову, стала служыць бацькавай памяці. І не толькі бацькавай. Курапаты для Маі Тодараўны — сімвалічнае ўвасабленне пакут беларускага народа на ахвярным шляху да Будучыні, сімвал злачынстваў гвалтаўнікоў перад чалавецтвам, якія ніхто не мае права забыць.,

Яе сюды прыводзіць сэрца. Як прыводзіць штодня — у святы і будні — самых розных людзей, у каго ёсць сумленне і пачуццё адказнасці за лёс сваёй зямлі. Сярод іх і маладзенькая студэнтка Насця Чаромшына. Ніякіх высокіх слоў яна мне не гаварыла, сказала толькі, што пачула пра талаку ад свайго выкладчыка Мікалая Мікалаевіча Крывальцэвіча — і не змагла не прыйсці. Яны часцяком бываюць тут з сябрамі. Проста так. І гэтае "проста так" — сведчанне шчырага парыву — даражэй, можа быць, за ўсялякія громкія клятвы.

Прыбраць святое месца перад вясновым Днём памінання продкаў прыйшлі і маладыя, і пажылыя. Работы было шмат, яна ішла спорна, без прынукі і чыйго-небудзь камандзірства. Ачышчалі ад хмызняку магілы, на якіх усё больш разрастаецца лес крыжоў, зграбалі апалае лісце, размяталі сцяжыну, што вядзе на пагорак да памятнага каменю. Але больш за ўсё марокі было са смеццем, раскіданым па лесе нязводнымі "аматарамі прыроды": розныя бляшанкі, бутэлькі, бітае шкло, акуркі, карабкі ад цыгарэт, нават старыя шыны валяліся вакол... Так, вандалы ўсіх гатункаў не забываюць наведваць Курапаты, біць, смеціць, ламаць, рушыць усё, што можна, нават святое — крыжы. На гэты раз яны недвухсэнсоўна распісаліся чырвонай фарбай па чорным граніце: *"Анархія"*.

Падумалася міжволі: калі гэта і анархія, то — добра кіруемая. Але не менш, чым за перыядычныя і відавочна арганізаваныя духоўнымі нашчадкамі расстрэльшчыкаў пагромы ў Курапатах, трывожыць амаль бессэнсоўнае, на пабытавым узроўні дзікунства. Ні аб чым не задумваючыся, сюды, у ціхі куток прыходзяць "оттянуться", паліць "шашлычныя" вогнішчы сучасныя дзікуны...

Гэта яны ў пільным клопаце аб уласным сілкаванні "жывымі вітамінамі" знявечылі ледзь не да адзінай бярозы ва ўрочышчы. Не акуратныя падсечкі-адтуліны рабілі, а пасчэсвалі сякерай ладныя кавалкі ў самым нізе камля, і сок пенным вадаспадам хлешча на зямлю, даўно перапоўнішы кімсьці забыты посуд. Плачуць белыя прыгажуні празрыстымі слязьмі. Плачуць, здаецца, не толькі ад уласнага болю і суму, што асуджаны на пагібель. Яны плачуць па нас. Ад сораму за людзей і горкага недаўмення: няўжо ж гэты сок, настоены на крыві і касцях загубленых продкаў, сапраўды пойдзе на карысць і здароўе "дабытчыкам" з сякерай, іх дзеткам і родным? Пра тых, хто здольны на глум сярод крыжоў, цяжка сказаць: "Даруй ім, Госпадзі, бо не ведаюць, што робяць".

...За некалькі гадзін шчыравання талакоўцаў курапацкае ўрочышча ачысцілася, непазнавальна змянілася. Стомленыя, з рыдлёўкамі, граблямі, венікамі мы вярталіся дадому. А насустрач нам па чысцюткай сцяжыне вальяжна-ганарлівыя дамы вялі на выгул сваіх пародзістых сабак...

**Святлана КЛІМЕНЦЕНКА.**
**Фота IREX/ProMedia.**

# Вы афармляеце падпіску на "Народную волю" — мы даём скідку

*Шаноўныя мінчане!*

*З сённяшняга дня па 23 мая Вы маеце магчымасць падпісацца на "Народную волю" на другое паўгоддзе па цэнах першага. Пры гэтым газету будзеце атрымліваць да запатрабавання ў кіёсках у выгадны для Вас час. Кошт падпіскі:*

**Для пенсіянераў, інвалідаў, уладальнікаў паўгадавой ці квартальнай падпіскі (індэкс — 63429)**

**1000 рублёў — на 1 месяц**
**3000 рублёў — на 3 месяцы**
**6000 рублёў — на 6 месяцаў**

**Для індывідуальных падпісчыкаў (індэкс — 63222)**

**1200 рублёў — на 1 месяц**
**3600 рублёў — на 3 месяцы**
**7200 рублёў — на 6 месяцаў**

**Ведамасная падпіска (індэкс — 63225)**

**2200 рублёў — на 1 месяц**
**6600 рублёў — на 3 месяцы**
**13 200 рублёў — на 6 месяцаў**

## Спіс гандлёвых кропак і кіёскаў "Белсаюздруку", у якіх можна аформіць падпіску:

| | | |
|---|---|---|
| Участак падпіскі "Белсаюздрук" | вул.Валадарскага, 16, п.302 | 227-88-41 |
| Пункт прыёму падпіскі | вул.Жукоўскага, 5, корп.1 | 224-32-03 |
| Пункт прыёму падпіскі | пр-т Ф.Скарыны, 113 | 284-22-91 |
| Пункт прыёму падпіскі | вул.Раманаўская Слабада, 9 | 220-83-04 |
| Пункт прыёму падпіскі | вул.А.Кашавога, 8 | 230-29-20 |
| Пункт прыёму падпіскі | пр-т Машэрава, 51/1 | 223-80-43 |
| Магазін №1 | вул.Жукоўскага, 5 | 224-03-76 |
| Магазін №2 | пр-т Ф.Скарыны, 44 | 284-83-59 |
| Магазін №3 | пр-т Ф.Скарыны, 76 | 232-46-23 |
| Магазін №4 | вул.Леніна, 15 | 227-11-92 |
| Магазін №6 | вул.Філімонава, 1 | 235-63-11 |
| Магазін №7 | вул.Я.Коласа, 69 | 228-30-20 |
| Магазін №8 | вул.Сурганава, 40 | 232-45-10 |
| Магазін №9 | пр-т Ракасоўскага, 140 | 247-30-15 |
| Магазін №11 | пр-т Пушкіна, 77 | 255-80-71 |
| Магазін №12 | вул.Кіжаватава, 80 | 278-77-61 |
| Магазін №13 | вул.Каліноўскага, 82, корп.2 | 264-06-42 |
| Магазін №14 | вул.Валадарскага, 22 | 227-75-55 |
| Магазін №15 | вул.Танкавая, 16 | 223-82-39 |
| Магазін №16 | вул.В.Харужай, 24 | 234-27-25 |
| Магазін №17 | вул.Някрасава, 35 | 231-03-28 |
| Магазін №18 | станцыя метро "Плошча Перамогі" | 284-31-06 |
| Магазін №19 | пр-т Машэрава, 51, корп.1 | 223-81-66 |
| Магазін №20 | вул.Ясеніна, 1, | 271-87-21 |
| Магазін №21 | станцыя метро "Пушкінская" | 255-57-20 |
| Магазін №22 | вул.Ілімская, 10, корп.2 | |
| Магазін №23 | вул.Славінскага, 39 | 284-36-33 |
| Магазін №24 | вул.Жылуновіча, 31 | 245-05-74 |
| Магазін №25 | вул.К.Маркса, 21 | 227-08-52 |
| Кіёск №2 | Лінгвістычны універсітэт, вул.Захарава, 21 | |
| Кіёск №18 | Тэхналагічны універсітэт, вул.Свярдлова, 13/4 | |
| Кіёск №34 | г-ца "Мінск", пр-т Ф.Скарыны, 11 | |
| Кіёск №38 | Педагагічны універсітэт, вул.Савецкая, 18 | |
| Кіёск №78 | г-ца "Юбілейная", пр-т Машэрава, 19 | |
| Кіёск №95 | Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, вул.Мяснікова, 39 | |
| Кіёск №138 | станцыя метро Я.Коласа, выхад да Акадэміі фізвыхавання | |
| Кіёск №187 | г-ца "Беларусь", вул.Старажоўская, 15 | |
| Кіёск №198 | Эканамічны універсітэт | |
| Кіёск №209 | Прахадная МАЗа, вул.Сацыялістычная, 2 | |
| Кіёск №228 | Універсітэт культуры, вул.Рабкораўская, 17 | |
| Кіёск №232 | МЗХ, пр-т Машэрава | |
| Кіёск №245 | Бальніца хуткай дапамогі, вул.Кіжаватава, 56 | |
| Кіёск №259 | Мінскі дзяржаўны гандлёвы каледж, вул.Усходняя, 183/43 | |
| Кіёск №262 | г-ца "Планета", пр-т Машэрава, 31 | |
| Кіёск №298 | пр-т Машэрава, 75/1 | |
| Кіёск №302 | 9-я бальніца | |
| Кіёск №313 | Слабодскі праезд, 24 | |

ТОЧКИ НАД "І"

# О том, как Никита Пигуль искал в Уголовном кодексе различия в принципах назначения наказания

20 апреля с.г. в "Народной воле" была опубликована корреспонденция Никиты Пигуля под названием "Как судья Тамара Высоцкая писала приговор...", в которой давался анализ необоснованного, на взгляд автора, применения ч.3 ст.39 УК 1960 года, регулирующего принцип назначения наказания по совокупности преступлений, примененного Щукину В.А., который признан приговором Минского городского суда виновным в совершении преступления, предусмотренного ст.186-3 УК 1960 года.

В статье Н.Пигуль констатирует, что судья не умеет читать законы, приводит выдержки из приговора и указывает, что Щукину В.А. необоснованно назначено наказание по совокупности преступлений, а то, что сделано судьей, регламентируется ст.40 УК, предусматривающей назначение наказания по совокупности приговоров.

Увы, как следует из написанного, Никита Пигуль так и не удосужился изучить Уголовный кодекс внимательно, что и позволило ему довести до сведения читателей субъективную и неправильную информацию.

Так, автор публикации, имея явно отдаленное отношение к юриспруденции, к сожалению, не понял, что ст.40 УК 1960 года применяется в случае, когда новое преступление совершено после вступившего в законную силу приговора, но до полного отбытия назначенного по нему наказания, что означает совершение обвиняемым нового преступления до 24.00 часов последнего дня неотбытого наказания по предыдущему приговору.

Поскольку вмененное Щукину В.А. деяние, предусмотренное ст.186-3 УК 1960 года, было совершено до постановления приговора судьи Центрального района г.Минска от 20 марта 2001 года, то в данном случае наказание назначается по правилам ч.3 ст.39, а не ст.40 УК.

Учитывая, что Щукин В.А. была привлечен к уголовной ответственности за хулиганство и в отношении него был постановлен обвинительный приговор с назначением наказания в виде ареста, в описательно-мотивировочной части приговора Минского городского суда от 17 апреля 2001 года обоснованно содержится ссылка на это обстоятельство, а не на судимость Щукина В.А., как об этом указывает Никита Пигуль. Являются искаженными и остальные приведенные в статье выдержки из приговора.

При этом автор позволяет недопустимые высказывания в адрес судьи и постановленного от имени Республики Беларусь основного процессуального документа, что свидетельствует не только о низкой правовой, но и общей культуре автора и, по всей вероятности, личной обиде на судью за "неправильное" назначение Щукину В.А. наказания.

**Тамара ВЫСОЦКАЯ, судья Минского городского суда.**

## От редакции

*Публикуя корреспонденцию Н.Пигуля, "Народная воля", конечно же, не допускала, что трактовка им норм Уголовного права носит поверхностный, в определенной мере даже субъективный характер. И хорошо, что судья Т.Высоцкая не оставила это без внимания. Редакция в свою очередь заинтересована в том, чтобы в публикациях не было никаких перегибов, неточностей. Сегодняшним комментарием мы расставляем точки над "і".*

*Принимаем замечания Т.Высоцкой и насчет культуры письма Н.Пигуля. Хотелось бы, чтобы корректность, уважение к оппонентам возвышались над личными эмоциями.*



Пр. Антона, Астапа, Марціна.
К. Зіты, Тэафіла.

КРАСАВІК
**27**
ПЯТНІЦА

☉ Усход 5.42
Захад 20.34
Даўж. дня 14.52

☽ Перш. квадра 30 красавіка
Захад 0.26
Усход 8.23

